 

# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 45 (1643) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 8 ЛІСТАПАДА 1987 г. ЦАНА 12 зл.

## 70 МЫ З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

### БУНТАЎНІК

Іван Астроўскі нарадзіўся ў в. Плюцічы, што на Бельшчыне. У 1915 г. яго разам з сям'ёй эвакуіравалі на Паволжа, і ён стаў служыць парабкам у заможнага гаспадара. У 1917 г. пачаў працаваць рабочым на фабрыцы ва Уладзімірску. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі пераехаў у Казань і стаў на работу ў вайсковай хлебапякарні. У 1919 г. паступіў дабравольцам у І Казанскі рабочы полк і біўся з белагвардзейцамі. У 1920 г. зноў вярнуўся на працу ў вайсковую хлебапякарню і там уступіў у Расійскую камуністычную партыю (бальшавікоў). У 1922 г. вярнуўся на радзіму і адразу ўключыўся ў рэвалюцыйны рух на Беласточчыне і ўступіў у Камуністычную партыю Заходняй Беларусі. За падпольную дзейнасць засуджаны ў „працэсе 133" у Беластоку ў 1928 г. Пасля выхаду з турмы разам з іншымі таварышамі арганізаваў славутае паўстанне сялян у Райску супраць секвестратараў і паліцыі. У 1936 г. арыштаваны і засуджаны на 10 год цяжкай турмы ў Серадзы. Пасля вяртання дамоў у 1939 г. спачатку быў назначаны дырэктарам саўгаса ў Каменным Двары, затым старшынёй сельсавета ў Вышках. З 1944 г. І. Астроўскі — член Польскай рабочай партыі і ОРМО.



Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР адзначыў І. Астроўскага медалём „За адвагу".

**Б. Нікіцюк**






**Уладзімір Савіч, мастак-графік, старэйшы выкладчык кафедры графікі Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута ў Мінску, член Саюза мастакоў Беларусі.**

— Раскажыце крыху аб вашым інстытуце.

— У нас два факультэты: мастацкі — тут кафедры жывапісу, скульптуры, графікі, манументальнага мастацтва; і прыкладны — кафедры керамікі, інтэр'еру (эстэтыкі), дзізайна (прамысловае графікі), дзе рыхтуюцца мастакі да працы на прадпрыемствах.

— Колькі студэнтаў?

— Не больш 500.

— Хто гэтыя маладыя людзі, якія паступаюць у ваш інстытут — з вёскі яны ці з горада?

— Ёсць у Мінску сярэдняя школа-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве імя Івана Ахрэмчыка. У гэтую школу паступае вельмі многа дзяцей з усіх куткоў Беларусі. Яе настаўнікі ездзяць па Беларусі, шукаюць талентаў і тыя дзеці з пятага класа пачатковай школы паступаюць у Мінскую школу і там займаюцца сем гадоў. Пасля яе заканчэння атрымліваюць агульную падрыхтоўку для паступлення ў наш інстытут. Большасць нашых студэнтаў з гэтай школы.

— Там многа вучняў?

— Кожны год туды паступае 25-30 чалавек.

— Як вы маглі б ахарактарызаваць сучаснае беларускае мастацтва ў цэлым.

— Наш інстытут гэта кузня кадраў нацыянальнага беларускага мастацтва. У 60-тыя гады прыйшла плеяда маладых мастакоў, у якіх выявілася вялікая ўвага і цікавасць да сваіх нацыянальных каранёў. Гэта здольныя людзі, яны пакончалі нашы вузы, у асноўным наш інстытут. Іх роля ў адраджэнні нацыянальнага мастацтва — вялікая. Яны якраз пачалі падымаць нацыянальны пласт у мастацтве ў 60 гады, калі ўзнікла магчымасць вывучаць сваю гісторыю, этнаграфію, калі пачалі гаварыць пра нацыянальнае хараство і нацыянальныя каштоўнасці.

— А пра самую беларускую нацыянальную графіку.

— Старэйшае пакаленне беларускіх графікаў: Алесь ПасляДовіч, Арлен Кашкурэвіч, браты — Уладзімір і Міхась Басалыгі, Васіль Шаранговіч, Эдуард Агуновіч, Яўген Кулік. Маладзейшае пакаленне, да якога і сябе аднашу: Мікола Селяшчук, Мікола Купава, Валеры Славук, Юрась Герасіменка. У 60-70 гады графіка займала адно з вядучых месц па якасці прац на выстаўках — і станкавая графіка і кніжная графіка (ілюстрацыі кніжак). Станкавая графіка мае свой спецыфічны характар і тэматыку: ёсць многа серый па помніках архітэктуры, на гістарычныя тэмы, ваенную тэму — гэтая апошняя знайшла шырокае адлюстраванне ў станкавай графіцы.

— А ваша тэма?

— Я працую па тэме, звязанай з фальклорам.

— Адкуль гэта?

— У інстытуце выкладае чыстае мастацтва беларускі мастак Міхась Раманюк, дацэнт кафедры, тэорыі і гісторыі мастацтва. Ён правёў вялікую працу — вывучыў усе рэгіёны Беларусі і зрабіў альбом беларускага адзення. Ён арганізаваў вельмі многа экспедыцый студэнцкай моладзі па вывучэнню матэрыяльнай культуры, фальклору і этнаграфіі беларускага народа. Я таксама з ім ездзіў. Мяне і да гэтага цікавіла тэма, але вялікі штуршок у гэтым напрамку я атрымаў ад Міхася Раманюка. У мяне ёсць серыя станкавых лістоў (мы б сказалі „карцін" — вв). „Этнографы" — тут ідэя такая: сучасная моладзь і яе кантакт з вёскай — запісванне песень, фатаграфаванне касцюмаў, ручнікоў і т.п. значыць, сувязь моладзі са спадчынай, якую моладзь хоча знайсці і данесці да сучаснага чалавека. Другая серыя мая „Беларускія мадонны" — тут я хацеў паказаць беларускіх жанчын, якія захавалі да нашых дзён прыгажосць сваёй нацыянальнай душы. Яны ў мяне намалёваны ў нацыянальных строях. Мяне цікавіць вобраз беларускай жанчыны — яе высакароднасць і працавітасць.

— Вы ілюстравалі многа кніжак. Прашу назваць нейкія больш важкія факты з вашай ілюстратарскай працы.

— Я аздобіў кніжку для Японіі „Мал — Малышок", гэта беларускія казкі. Атрымаў за яе на ўсесаюзным конкурсе кніжнага мастацтва ўзнагароду Івана Фёдарава — вышэйшая ўзнагарода ў галіне мастацтва ў нас. Рабіў ілюстрацыі да беларускіх народных казак „З рога ўсяго многа", 4 ілюстрацыі з гэтай кніжкі закупіла Трэцякоўская галерэя. Ілюстраваў кніжку Васіля Віткі „Госці" — пра птушак. Удзельнічаў у Вільнюсе ў Трыенале кніжкі. Мая праца зацікавіла там прадстаўнікоў ФРГ. Цяпер я раблю, між іншым, для іх чатыры тамы пра жывёлу: жывёла лесу, жывёла саду і поля, жывёла гарышча, жывёла луга і вады. Ужо выйшаў першы том з маімі ілюстрацыямі.

— Якое ваша мастацтва? Яно іншае ад іншых?

— Чым адрозніваецца наша мастацтва, то гэта яго цеплыня, стрыманасць, што характарызуе і наш народ. У мяне постаці стаяць. Я падкрэсліваю велічнасць нашага народа, яго дабро. Няма моцных ліній, моцных колераў. Лагоднасць, як наш характар. Мае постаці жанчын — у народных строях, як бы паганскія ідалы, і ў большасці колеры белыя — сімвал чысціні народа. Мне многа дало, што я вывучаў і вывучаю народную спадчыну. І гэта мой стрыжань, на якім я трымаюся, ён прымушае гарэць душой.

— Якія навейшыя мастацкія выстаўкі адбыліся ў Беларусі?

— У нас адбываецца цяпер многа выставак, прысвечаных дзеячам нацыянальнай культуры, напрыклад, Цётцы, Міколу Гусоўскаму, Максіму Багдановічу, Казіміру Лашчынскаму, Язэпу Драздовічу, выстаўка „Помнікі архітэктуры Беларусі". Яны выклікаюць вялікі рэзананс у рэспубліцы. Пачынае памалу беларускае мастацтва запаўняць белыя плямы. Выстаўкі беларускага мастацтва і графікі шырока экспануюцца на ўсёй Беларусі, СССР і за мяжой, нават былі ў Эфіёпіі, Новай Зеландыі?

— Уражанне з Беласточчыны?

— 10 з 11 маіх дзён у Польшчы я ездзіў па Беласточчыне. Я бачыў вёскі, гаварыў па-беларуску з людзьмі. Мяне ўразіла іх гасціннасць — гэта тыповае для нас, беларусаў. Дзе б я не быў, людзі былі як бы даўно знаёмыя, свае, шчырыя. Я вымушаны буду зрабіць серыю

(Працяг на стар. 6)

 

(Працяг са стар. 3)

## АДГАЛОСКІ

нік архітэктуры XVIII ст. да рэстаўрацыі. Летам многія з іх супрацоўнічалі са спецыялістамі аб'яднання „Белрэстаўрацыя“, выканаўшы значны аб'ём працы пры архітэктурна-археалагічных даследаваннях таго ж кляштара трынітарыяў і касцёла св. Варвары. Ёсць патрэба выканаць расчыстку падвалаў у „Варвары“, пачалося аднаўленне прыбудоў XVIII/XIX ст.ст. да ратушы — і тут прыкладуць рукі ўзгорцы. Дарэчы, зараз поўным ходам вядзецца рамонт той жа ратушы, дзе разгорнецца абноўленая экспазіцыя Віцебскага абласнога краязнаўчага музея. І тут прагным да беларускае старажытнасці знойдзецца што рабіць. Наперадзе ўвасабленне ў жыццё праекта рэгенерацыі гістарычнай забудовы Віцебска, сур'ёзна абмяркоўваецца ўзнаўленне выдатных познебарочных помнікаў Успенскага сабора і Уваскрасенскай царквы, унікальнага помніка XII ст. — царквы Благавешчання. Спраў шмат. І кожная з іх для горада, для Беларусі намнога важнейшая за стварэнне музея аднаго мастака.

І яшчэ пра адну недакладнасць, што трапіла ў публікацыю Валянціна Сельвесюка, варта сказаць колькі слоў. У ёй пішацца: „У містычна-візіянерскім свеце яго карцін знайшлося месца для вобразаў роднага горада (трэба думаць, гаворка ідзе пра Віцебск, які „быў“ радзімай мастака). „Гэта перш за ўсё вобраз беларускага мястэчка...“ То чым жа быў Віцебск: горадам ці мястэчкам? Па гістарычных і археалагічных крыніцах вядома, што ён усё ж горад. Узрост яго больш за тысячу гадоў. У сярэднявеччы гэта быў адзін з буйнейшых гандлёвых і рамесніцкіх цэнтраў Вялікага княства Літоўскага. У XVIII ст. дойліды, скарыстаўшы адметны віцебскі рэльеф, стварылі шэраг унікальных архітэктурных ансамбляў, што склалі маляўнічую панараму горада. Істотныя дапаўненні горадабудаўнічага ансамбля былі зроблены ў XIX ст. На час жыцця Шагала ў Віцебску гэта быў дастаткова вялікі горад з мноствам вартасцёвых помнікаў дойлідства. З той прычыны, відаць, славуты рускі мастак Рэпін параўноўваў яго з Таледа, па архітэктурных адзнаках суадносіў з Кіевам і Ноўгарадам. Калі ўжо казаць пра адлюстраванне гарадскіх славутасцей мастакамі, то найперш варта згадаць акварэлі Язэпа Пешкі, якія сталі неацэнным матэрыялам для даследчыкаў беларускай мінуўшчыны і ў тым ліку дойлідства. Нямала акварэляў прысвяціў роднаму гораду Гугель. Графічныя аркушы і палотны многіх сучасных мастакоў Віцебска таксама адлюстроўваюць яго прыгажосць, непаўторнасць, адметнасць. Горад над Заходняй Дзвіной праславіў і Марк Шагал. На яго палотнах Віцебск і сапраўды выглядае мястэчкам з пахіленымі платамі, перакошанымі будын-

(Працяг на стар. 5)

## СЯБРЫНА

## ШУРЫК

### РАЗМОВА З АЛЯКСАНДРАМ СІЦЬКО З ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

**Міра:** Шурык — так цябе называюць сябры. Мы сустрэліся ў Беластоку. Дэлегацыя маладых юрыстаў з Гродзенскага універсітэта прыехала на навуковы семінар аб стыпендыяльнай сістэме ў сацыялістычных краінах. Наш універсітэт падпісаў з вашым дагавор аб супрацоўніцтве на пяць год, а сёння падпісалі ўмову нашы маладзёжныя арганізацыі. Афіцыйна нагаварыліся мы праз цэлы тыдзень, а цяпер я хачу больш пазнаёміцца з табой.

**Шурык:** Думаю, што мае сябры больш цікавыя для цябе, чым я.

**М.:** Я адразу заўважыла, што ты — вельмі скромны і таямнічы хлапец. Вельмі прашу цябе, Шурык, скажы нешта аб сабе, паміраю з цікаўнасці! Відаць, умееш зацікавіць дзяўчыну!

**Ш.:** Ну, што ты! Я цяпер проста — студэнт III курса юрыстыкі. Тваіх сяброў з арганізацыі я сустрэў у лагеры ў Гродне. Былі яшчэ студэнты палітэхнікі з Лодзі і іншыя... У большасці гэта былі юрысты, з якімі мы рашылі супольна навукова папрацаваць. У нас кожны студэнт павінен ад пачатку сваёй адукацыі займацца навуковай працай. Штогод пішам курсавыя работы, на першым курсе вучаць нас падставам навуковай працы, на першым курсе выбіраецца таксама тэма, якую вядзеш потым да пятага курса. Пасля двух гадоў тэму можна яшчэ змяніць. І так — кожны год студэнт піша адзін раздзел сваёй дыпломнай працы. У мяне работа — аб следстве над пакражамі ў сельскай гаспадарцы.

**М.:** Ты сам — з вёскі?

**Ш.:** Мая вёска — Данілкі, невялікая, усяго 40 хат, 25 кіламетраў ад граніцы. Мая сям'я — мая прыстань. У мяне ёсць толькі мама, бацька памёр у 1982 годзе, і 2 браты. Старэйшы, Толя, працуе заатэхнікам у калгасе, а малодшы, Коля, якому 16 год, вучыцца ў 10-годцы. Пасля школы я адразу пайшоў здаваць ва універсітэт, але не хапіла пунктаў. Працаваў год. У 1983 годзе мяне ўзялі ў армію на 2 гады, у Петразаводск. У арміі я многа чытаў, пасля месяц падрыхтоўваўся і зноў паявіўся ў Гродзенскім універсітэце. І тут вучуся ўжо трэці год. Не заўважыў, як праляцелі два гады. Знаёмых і калегаў тут многа, сапраўдных сяброў — адзін, двое. Ведаеш, іншая справа — сябра, чалавек найбліжэйшы. Мы ў інтэрнаце жывем утраіх у пакоі. Цяпер гэтыя людзі для мяне — самыя блізкія. Быў у мяне калісьці адзін сябра дзяцінства, але ён ужо працуе, у яго ёсць свая сям'я, іншыя зацікаўленні. Былі сябры і ў арміі, з цэлага Савецкага Саюза, і ўсе параз'язджаліся, пішам ужо толькі пісьмы.

**М.:** А твой самы добры сябра, прыяцель?

**Ш.:** Ёсць такі, гэта Коля Багалейша са Свіслачы. Ён жыве са мною ў інтэрнаце. Ён разумны, разумеючы, трохі старэйшы за мяне. Заўсёды дасць параду, падтрымае ў цяжкую хвіліну. Праўдзівы сябра — гэта такі чалавек, якому без сораму ўсё раскажаш, які часам прымусіць цябе да нечага ці што забароніць, заўсёды пры табе ў цяжкія моманты.

**М.:** Коля — ён такі, а ты?

**Ш.:** Ці я добры — не ведаю. Гаварыць аб сабе — цяжка. У жыцці мне ніколі не шанцавала, і гэта зрабіла дрэнны ўплыў на мой характар. Ад гэтага такая няўпэўненасць, што, калі раз не ўдалося — ізноў так будзе. Чаму чалавеку не ўдаецца? Я недзе чытаў: „Жыццё — гэта люстра, калі ўсміхнешся да яго, і яно табе адкажа ўсмешкай“. Стараюся быць кампанейскім. У кампаніі — неяк гэта выходзіць, ужываюся. Ніколі не бываю галавой кампаніі, але падтрымоўваю, калі трэба. Не люблю навязвацца людзям...

**М.:** Я цябе адразу заўважыла, калі ты сядзеў такі задуменны, папраўляючы акуляры, высокі, з кучаравай чупрынай, з усмешкай слухаючы гоман сяброў. Ты марыш...

**Ш.:** Не скажу, аб чым. Можа быць, мае мары дзяцінныя, можа для каго яны пакажуцца смешнымі. Не скажу, аб чым я думаю.

**М.:** Будзе час і на гэта, Шурык!

Гутарыла
**Міра Лукша**

## ЛЮДЗІ МІРНАГА ФРОНТУ

Вельмі ўрачыста прайшло ў Бельску супольнае святкаванне 44-й гадавіны Войска Польскага і 43-й гадавіны службы бяспекі і міліцыі. Традыцыі як войска так і СБ і МО ў Бельску сягаюць першых дзён пасляваеннага часу, часу станаўлення народнай улады. Бельск у тыя дні быў вялікім цэнтрам, Бельскі павет займаў усю тэрыторыю пазнейшых трох паветаў. І на ўсёй гэтай тэрыторыі з ахвярнасцю дзейнічала бельская служба бяспекі і бельская міліцыя. На службу ў яе рады пайшлі добраахвотна сыны беларускіх сялян. Вельмі часта гінулі яны ў барацьбе з бандамі. У гісторыі бельскай міліцыі іхнія прозвішчы запісаны навечна.

Іх спадкаемцы дастойна выконваюць і цяпер сваю службу, якая ў насельніцтва Бельска карыстаецца вялікай пашанай. Я з узрушаннем глядзела, як у гэты дзень да Анатоля Навіцкага (майго калегі па Беларускаму ліцэю) у будынак міліцыі прыходзілі дэлегацыі з букетамі кветак і са словамі ўдзячнасці. Мне было вельмі прыемна назіраць, як гэтыя людзі, абняўшыся, тройчы, нашым звычаем, цалаваліся з Толікам і хуценька змахвалі з вачэй назойлівую слязу...

Урачыстая акадэмія адбылася ў Доме культуры ў Бельску. На ёй былі ўручаны адзначэнні і назначэнні на вышэйшыя ступені. Крыж Афіцэрскі Ордэна Адраджэння Польшчы атрымаў вядомы ў Бельску маёр Іосіф Саевіч — былы салдат Савецкай Арміі і Польскага Войска. Ступень капітана Польскага Войска атрымаў раённы віцэ-пракурор Андрэй Стэфаняк, а ступень капітана міліцыі Васіль Антыпюк — вядомы і слаўны бельскі харыст, шматгадовы член хору „Васілёчкі“.

Мастацкую частку для людзей, якія нас бароняць і ахоўваюць, падрыхтавала са сваімі дзецьмі са школы № 2 Валянціна Мароз.

**В. Валкавыцкая**

## КАНЦЭРТ „ЖУРАЎЛЁЎ“

Некалькі канцэртаў у пачатку кастрычніка г.г. на Беласточчыне сарганізавала братняе Украінскае грамадска-культурнае таварыства для свайго вядучага калектыву „Жураўлі“. Канцэрты выклікалі вялікае зацікаўленне і ўсюды прайшлі з поспехам, пры поўных залах. Украінскую песню ў нас любяць і ахвотна і ўдала спяваюць яе і нашыя беларускія калектывы. А тут надарылася магчымасць паслухаць яе ў арыгінальным выкананні.

Калектыў „Жураўлі“ складаюць людзі, дакладней кажучы мужчыны, пражываючыя па ўсёй Польшчы. Толькі праз некалькі месяцаў яны з'язджаюцца на рэпетыцыі і канцэрты. З калектывам працуюць прафесіянальныя сілы — як спевакі так і музыкі. Аднак галоўнае ядро калектыву — аматарскае. 34 мужчыны выступілі ў канцэрце ў Беластоцкай філармоніі, іх харавы спеў найлепш адлюстраваў дух украінскай песні і яе багацце. Якраз харавое выкананне а капэла вясёлай „Сусідкі“ ці раздольнай „Рэвэ та стогнэ“ наймацней запала мне ў сэрца.

„Жураўлі“, як інфармуе праграмны лісток, калектыў з багатым рэпертуарам, у аснове якога ляжыць украінская харавая песня на чале з багатай народнай украінскай песняй.

На жаль, праграма беластоцкага канцэрта была так пабудавана, што чыстага харавога мужчынскага спеву а капэла было нямнога. А хацелася б ад „Жураўлёў“ якраз пачуць такі спеў.

Дзе ж ты, запіраючая дух у грудзях украінская песня? Ці ж лепшых выканаўцаў ты знайшла сярод тыповых аматарскіх калектываў Беларускага грамадска-культурнага таварыства на Беласточчыне? **(вв)**

## ЦІ Ж РАЗУМНА?

У красавіку мінулага года купіла я ў гэсаўскай краме ў Бельску электрычны прас („жалязка“). Пакарысталася я ім нядоўга, неяк да канца сёлетняй вясны. Прас папсаваўся, і ўсё. Панесла я яго ў рамонт, у Паслуговае прадпрыемства хатняй гаспадаркі. Але, замест рамонту, выйшаў шыш! — няма заменных частак. Калі б не скончыўся быў мне час гарантыі, то сапсаванае памянялі б на новае, а так — мушу чакаць, аж фірма атрымае заменныя часткі. Вось і чакаю ўжо каторы месяц, і хто ведае, ці не працягнецца тое на гады цэлыя... Некаторыя людзі трацяць цярплівасць, не прычакаўшы рамонту, і бяруць з кашалька зноў тры тысячы злоты, каб пайсці ў краму і купіць там новы прас, які, пэўна, зноў сапсуецца праз год, і зноў купяць новы... І так круціцца каламыйка са стратай грошай і гарою непатрэбна купленых прасаў, а ўсё таму, што бракуе да іх нейкай дробязнай заменнай часткі, якая каштуе можа пяцьдзесят усяго або сто злоты?!

Ці ж гэта разумна?

**Ж. М.**

# БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

### ЗАКАНЧЭННЕ (5)

Думаю, што быў бы я ў нязгодзе як з уласным сумленнем, так і з гістарычнай праўдай, калі б не назваў тут усіх сваіх 'падапечных магістрантаў, якія на працягу многіх гадоў, будучы студэнтамі Кафедры беларускай філалогіі, пісалі магістэрскія дысертацыі, прысвечаныя фальклору і абраднасці беларускіх вёсак з усходняй Беласточчыны. Вось іх прозвішчы: Адамец Іалянта, Фальклор вёскі Меляшкі, 1983; Адамчык Міраслава, Фальклор і абраднасць вёскі Дабрывада, 1981; Андрэюк Ольга, Фальклор і абраднасць вёскі Тыневічы-Вялікія, 1977; Артэмовіч Аляксандр, Тэкля Аўсейчык — песенніца і казачніца з вёскі Плюцічы, 1977, Бабулевіч Галена, Абрады і фальклор вёскі Орля, 1977; Банькоўская Галена, Фальклор і абраднасць вёскі Грэдалі, 1987; Бурыла Сцяпан, Фальклор і абраднасць вёскі Малліннікі, 1980; Баравік Галіна, Фальклор і абраднасць, 1981; Цэтнароўская Анна, Фальклор і абраднасць вёскі Леўкі, 1980; Чыжэўскі Юрый, Фальклор вёскі Залукі і Падзалукі, 1980; Хмялеўская Надзея, Народная культура вёскі Старое Беразова, 1979; Добаш Ян, Народная творчасць вёскі Падбелле, 1981; Дзмітрук Валянціна, Традыцыі і народная культура вёскі Барысаўка, 1978; Гібоўская Анна, Фальклор і абраднасць вёскі Кашокі, 1980; Гарустовіч Ольга, Абраднасць і фальклор вёскі Дубіны, 1977; Гаворка Аляксандра, Фальклор вёскі Кашалі, 1978; Гілеўскі Павел, Фальклор і абраднасць вёскі Баброўнікі, 1978; Гузейка Данута, Фальклор і абраднасць вёскі Дубічы-Царкоўныя, 1981; Голуб Валянціна, Фальклор і абраднасць вёскі Катлы, 1981; Грыгарук Зофія, Фальклор і абраднасць вёскі Целушкі, 1977; Грыгарук Мікалай, Абрады і фальклор Гарадка, 1978; Юзвюк Ніна, Абрады і народная творчасць вёскі Ласінка, 1982; Якубоўская Алла, Песні і казкі вёскі Нарва, 1977; Якімюк Аліна, Фальклор і абраднасць вёскі Арэшкава, 1981; Ефімюк Ірэна, Фальклор і абраднасць вёскі Зубава, 1984 і Ефімюк Раман, Фальклор і народная культура пасёлка Чаромха, 1980; Краеўская Ірэна, Фальклор і абраднасць вёскі Мядзвежыкі, 1983, Касцючук Надзея, Фальклор вёскі Кожына, 1982; Кас'янюк Вера, Звычаёвасць і фальклор вёскі Клейнікі, 1973; Кобус Вера, Фальклор вёскі Пасынкі, 1983; Краўчук Вера, Абраднасць, звычаёвасць і фальклор вёскі Клейнікі, 1978; Капусцінская Валянціна, Фальклор вёскі Вычулкі, 1979; Леўчук Галена, Фальклор і абраднасць вёскі Крывая, 1981; Міранюк Ян, Фальклор вёскі Махнатае, 1977; Мартыновіч Анатоль, Фальклор і абраднасць вёскі Рэдуты, 1978; Недзведзь Анна, Народная творчасць і фальклор вёскі Відава, 1977; Нівінская Данута, Фальклор і абраднасць вёскі Хамантоўцы, 1979; Навацкая Ірэна, Традыцыі і народная творчасць вёскі Клейнікі, 1977; Аверчук Яўгенія, Фальклор і абраднасць вёскі Казлы, 1971; Плева Зінаіда, Абрады і фальклор вёскі Крывяцічы, 1978; Праховіч Уладзіслаў, Народная творчасць вёскі Янава, 1982; Пракапюк Яўгенія, Фальклор і народная культура вёскі Мокрае, 1979; Петручук Валянціна, Звычаёвасць і фальклор вёскі Лука, 1978; Рэпніцкая Тамара, Народныя традыцыі вёскі Паўлы, 1980; Рышчук Вера, Абраднасць і фальклор вёскі Шчыты, 1978; Сяргеюк Ірэна, Фальклор і абраднасць вёскі Шашылы, 1978; Шэўчык Валянціна, Народная творчасць вёскі Гусакі, 1973; Сянкевіч Ольга, Абраднасць і фальклор Белавежы, 1982; Сапежынскі Казімір, Народная творчасць вёскі Збуч, 1982; Свентахоўская Ірэна, Фальклор і абраднасць вёскі Макаўка, 1981; Шыманская Анна, Фальклор вёскі Чэхі-Арлянскія, 1976; Шайкоўская Таццяна, Песні і абраднасць вёскі Орля, 1977; Саевіч Марыя, Фальклор і абраднасць вёскі Ставішчы, 1978; Стахвіюк Віктар, Каляндарная абраднасць і паэзія вёскі Трасцянка, 1974; Сахарчук Ірэна, Фальклор і абраднасць вёскі Рэпіскі, 1980; Цімафеюк Вера, Фальклор і абраднасць вёскі Парцава, 1977; Тхарэўская Яўгенія, Народная творчасць і фальклор вёскі Пашкоўшчына, 1978; Томчык Ніна, Песні і абраднасць вёскі Мора, 1979; Талочка Анна, Народныя традыцыі вёскі Тапчыкалы, 1981; Саламаха Ніна, Народная творчасць вёскі Тымянка, 1978; Васілюк Ірэна, Фальклор і абраднасць вёскі Галады, 1981; Васілюк Яўгенія, Фальклор і абраднасць вёскі Гацькі, 1983; Зубрыцкі Пётр, Фальклор ваколіц Супраслі, 1978; Пучко Галіна, Фальклор вёскі Гародчына, 1986.

Усім вам, дарагія сябры-аўтары фальклоразнаўчых работ, шчыра дзякую. Паставілі вы помнікі фальклорнаму беларускаму мінуламу. Верце, што вашы дысертацыі ніколі не пастарэюць і кожнае новае пакаленне беларусаў знойдзе ў іх непамінаючыя каштоўнасці.

**А. Баршчэўскі**




Сэрцайка, не ўяўляеш сабе, што гэта быў за хлопец. Прыгажун на ўсю ваколіцу! А высокі, а прыстойны, а як заспявае, то на другім канцы вёскі чуваць. Я працую ў недалёкім мястэчку, але як толькі прыеду дахаты на суботу ці нядзелю, то стараюся быць у той кампаніі, дзе прабывае гэты хлапец. Не ведаю, што здарылася, але ад паўгода ўжо не магу знайсці сабе спакою. А які жартаўнік, а які вясёлы і ўсё намаўляў мяне, каб сустрэцца, усё зачапляў пры ўсіх. Так што ўсе дзяўчаты мне зайздросцяць і лічаць ужо нас амаль параю. І вось нядаўна Мішу запрасілі на вяселле ў Беласток, і ён папрасіў, каб я паехала разам з ім. І я зразумела яго прапанову як трэба: калі едзем на два-тры дні і ў гаспадароў вялікая віла, то значыць, будзем там начаваць, і я буду са сваім каханым.

На гэтым вяселлі аднак я пацярпела крах. Не скажу, хлопец мой быў вельмі мілы ў адносінах да мяне, быў вясёлы, спяваў і танцаваў увесь час са мною, можна сказаць, што быў душою кампаніі. А дзяўчаты проста клеіліся да яго. Мой Міша бачыў толькі мяне. Але вось надыйшла ноч. Гаспадары паклалі нас спаць у адным пакоі. Я пачала туліцца да яго і са страхам сцвердзіла, што на яго гэта не робіць ніякага ўражання. Я перажыла шок. Мой хлопец, мой прыгажун, мая мара — імпатэнт! На маіх кволых змаганнях закончылася гэта прыкрая ноч. Нічога не ўдалося мне тут вычараваць. І цяпер я зусім разбітая: што ж будзе, ды й наогул як так можа быць, што ў мужчыны амаль няма пэўнай часткі цела? На душы застаўся нейкі непрыемны асадак. Я была злосная на сябе за тое, што даверылася Мішу ды й наогул за ўсё: і за вяселле і за расчараванне. Але што рабіць, калі хлапец мне ўсё роўна падабаецца, хаця ў душы нешта як бы астыла.

**Ліля**

Ліля! Казала тут адна сяброўка, што тыя прыгажуны ўсе такія. Чым больш прыгожы і прыстойны, тым менш цікавы ў пасцелі. Так што можа лепш разглянуцца за хлопцам звычайным, у меру прыстойным, у меру прыгожым, мо тады з яго карысць нейкая (сексуальная) будзе. Ды толькі сяброўкі вось падказваюць, што ізноў такі ж можа аказацца. Ой, Ліля, не вязе табе!

Слухай, Лілька, а мо табе ў поцемках гэтак здалося. Ну, сама разумееш, нібы ён там нічога не мае. Бо і як жа гэта так, каб нічога не меў?! А мо быў ён перапіты? Дзесьці чытала я калісьці, што з мужчынамі яно так: адны пасля гарэлкі лепшыя, надта добрыя, могуць кахацца з дзяўчынай бясконца. На жаль, іх усяго працэнтаў 30; іншыя ж — зусім да нічога. І каб ты хоць на галаве станавілася, то і так не зробіш на яго ўражання. Такіх, здаецца, большасць. Працэнтаў 70.

Лілечка, на другі раз паспрабуй прытуліцца першы раз да хлопца не ўначы і не пасля піцця гарэлкі, тады прынамсі будзеш мець упэўненасць, што вочы не падвялі.

**Сэрцайка**

## ЦІКАВІНКА

### Продак чалавека пастарэў

У Кеніі знойдзен фрагмент чэрапа, які належаў, як мяркуюць, аўстралапітэку віду „байсеі". Узрост фрагмента — 2,5 мільёна гадоў, што на 300.000 гадоў старэй за самыя старажытныя з вядомых да гэтага часу выкапнёвыя рэшткі гэтага продка чалавека.




### З яек

### АМЛЕТ ПА-СЯЛЯНСКУ

На 8 яек трэба ўзяць 2 сталовыя лыжкі мукі, 1 шклянку малака, 200 г саланіны, соль.

Яйкі збіць, дадаць муку, соль і малако і добра размяшаць. Саланіну парэзаць на кавалачкі, палажыць іх на патэльню і заліць яечнай мяшанкай. Амлет можна засмажыць у духоўцы.

### АМЛЕТ З КАЎБАСОЙ

На 8 яек бярэм паўшклянкі малака, 150 г каўбасы, 1 сталовую лыжку масла ці маргарыну, соль.

Яйкі размяшаць з малаком (або вадой) і пасаліць. Пасля гэтага заліць нарэзаную падсмажаную каўбасу і ўсё падсмажыць.

### АМЛЕТ З ГРЫБАМІ

На паўкілаграма грыбоў трэба ўзяць 1 цыбуліну, 3 сталовыя лыжкі топленага масла, 8 яек, 1 сталовую лыжку малака, соль.

Падрыхтаваныя свежыя грыбы падсмажыць на масле, дадаць нарэзаную цыбулю і разам падсмажыць з іх 4 невялікія амлеты. На амлеты накладаць грыбны фарш, загортваць іх і падсмажваць.

### ЯЕШНЯ З ВАРАНАЙ КАЎБАСОЙ

На 8 яек трэба ўзяць 200 г варанай каўбасы, 1 сталовую лыжку тлушчу, соль.

Нарэзаць вараную каўбасу, падсмажыць яе на патэльні з двух бакоў. Пасля гэтага асцярожна выліць на яе яйкі, так, каб жаўткі не разліліся, пасаліць і запячы ў духоўцы.

### БЕЛАРУСКІ АМЛЕТ

На 8 яек трэба ўзяць паўшклянкі малака, 80 г саланіны, 1 цыбуліну, соль.

Дробна нарэзаць саланіну, падсмажыць, дадаючы цыбулю. Яйкі размяшаць з малаком і пасаліць. Мяшанкай гэтай заліць саланіну, падсмажаную з цыбуляй, запячы ў духоўцы.

**Гаспадыня**

### СТУДЭНТЫ БЕЛАСТОКА!

Атрасіны беларускіх студэнтаў першага курса адбудуцца 13 лістапада ў 19 гадзін у клубе „Гвінт" — вул. Звежынецкая 10.




—97—

**Рукапіс** — навіны.

**Руль** — здзейсненыя надзеі.

**Румяны** (на твары) — няшчырая сяброўка.

**Рупар** — з табой абыдуцца ласкава; цябе ахвотна дапусцяць да голасу.

**Русалка** — вясёлыя жанчыны.

**Ручка** для накручвання чаго-небудзь — няўдачныя планы, намеры.

**Ручнік** — будзь асцярожны і пазбяжыш пакутаў.

**Рыба** — асцерагайся засады, правакацыі; есці — чалавечая прыхільнасць; лавіць — значны даход; вялікія — задавальненне; малыя — няўдачы; нежывыя — засмучанне; варыць — дабрабыт у хаце; залатыя рыбкі — багатая жаніцьба (замужжа); купляць — фальшывыя пагалоскі.

**Рыбак** — прыемны занятак.

**Рыбін** тлушч (тран) піць — няшчасце; нюхаць — непрыемныя звесткі.

**Рыдлёўка** — клопаты.

**Рыжы** — карыснае знаёмства.

**Рыжыкі** — здароўе.

**Рыза** (у свяшчэнніка) — асцерагайся падлізнікаў.

**Рызніца** (у царкве) — удачы.

**Рык** — благія звесткі.

**Рына** (труба для стоку дажджавой вады) — добры сябра, супольнік.

**Рыс** — змены ў адносінах з людзьмі; варыць — здароўе; купляць — павелічэнне маёмасці.

**Рысаваць** — цябе акружае пашана.

**Рысь** — раскрыеш падвох хітрага чалавека.

# БЕЛАРУСІКІ


Bryl Janka, Janka Bryl, sylwetki, *Nowe Książki 1969*, nr 21, okł., il.

Bryl Janka, O północy. Tł. z białor. Maciej Józef Kononowicz, *Barwy* 1971, nr 6, s. 7.

Bryl Janka, Mój Czechow, fragm., tł. Maciej Kononowicz, *Życie Literackie* 1971, nr 6, s. 14, il.

Bryl Janka, Miniatury z tomu „Garść słonecznych promieni", tł. K(atarzyna) Suchodolska, il. Irena Danielska, *Spojrzenia 1971*, nr 2, s. 26.

Bryl Janka, Echo zawsze jest ze mną (Wspomnienia z pobytów w Polsce), tł. z białor. Maciej Józef Kononowicz, *Kierunki* 1971, nr 18, s. 1, 6—7.

Bryl Janka, Echo zawsze jest ze mną, fragm., tł. z białor. Maciej J(ózef) Kononowicz, *Przemiany* 1971, nr 5, s. 14—16.

Bryl Janka, Witraże, Mińsk 1972. Rec. Sielicki Franciszek, *Kierunki* 1972, nr 50, s. 8.

Bryl Janka, Patrzeć na trawę, Łódź 1971. Rec. Nieuważny Florian. *Nowe Książki* 1972, nr 10, s. 43—44, il.; Lubosz Bolesław, *Poglądy* 1972, nr 15, s. 11.

Bryl Janka, Witraże (fragm.), tł. z białor. Sokrat Janowicz, *Literatura na Świecie* 1976, nr 5, s. 344—391.

Bryl Janka, Nasze dzieci, fragm. książki „Witraże", tł. Sokrat Janowicz, il. E(dward) Inglot, *Kamena* 1976, nr 11, Dwóch Iwanów, tł. Anna Sobiecka, *Nadodrze*, nr 11, s. 8.

Bryl Janka, Echo zawsze ze mną... Rozm. przepr. Anna Sobiecka, *Nadodrze* 1976, nr 11, s. 1, 6—7.

Bryl Janka, Witraże, fragm., tł. z białor. Sokrat Janowicz, *Literatura* 1977, nr 6, s. 10.

Bryl Janka, Bajdy Dolne, Łódź 1979. Rec. Nieuważny Florian, *Nowe Książki* 1980, nr 7, s. 9—10, il.

Bryl Janka, Witraże, Warszawa 1979. Rec. Nieuważny Florian, *Nowe Książki* 1980, nr 7, s. 9—10, il.

Bryl Janka, Ogień, treść, idea, polot. Wyw., tł. Barbara Dohnalik, *Literatura na Swiecie* 1982, nr 11, s. 132—138, il.

Bryl Janka, Dlaczego? — Jesteśmy przyjaciółmi, tł. z białor. Anna Sobiecka. *Nadodrze* 1982, nr 17, s. 8.

Bryl Janka, Modlitwa, Wojak, Smutna bajka, tł. z białor. Anna Sobiecka, *Nadodrze* 1983, nr 12, s. 8; Nie chcę ja na nich nawet patrzeć... — Pokłon, tł. A. Sobiecka, *Odra* nr 3, s. 46—47.

Bryl Janka, Subordynacja, tł. z białor. Anna Sobiecka, *Kamena* 1984, nr 8, s. 6—7.

Bryl Janka, Swiat ujrzany z daleka, Kraków 1985. Rec. Wojciechowski Jacek, *Nowe Książki* 1986, nr 12, s. 45—47.

Budko W.D., Paleolit Bielarussii. Leningrad 1962. Rec. Marczak, *Acta Baltico-Slavica* v. 4, 1966, s. 195—199.

Bułyka A., Zapazyczanyja nazwy adziennia i abutku u starabiełaruskaj mowie. *Slavia Orientalis* 1980, nr 1/2, s. 53—64.

Bułyko Aleksandr, Zapadnyje zaimstowanija iz sfiery rieligioznoj żyzni w starobiełorusskom jazykie, *Rocznik Slavistyczny* t. 41, 1981, cz. 1, s. 65—80.

Bułyka Alaksandr, Zapazyczanyja nazwy tkanin i skór u starabiełaruskaj mowie. *Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Jagiellońskiego* nr 633, *Prace Językoznawcze* 1983, z. 74, s. 35—49.

Burak Leanid, Dałuczennie u suczasnaj biełaruskaj mowie, Mińsk 1975. Rec. Pisarek Larysa, *Slavia Orientalis* R. 25, 1976, nr 3, s. 405—407.

Burawkin Gienadź, Na ostatnie rysuneczki (w), tł. z białor. Piotr Stefanowicz, *Zycie Literackie* 1977, nr 45, s. 20.

Bursz Jasza, Odpowiedzialność (w), tł. z białor. Wiktor Rudczyk, *Zycie Literackie* 1968, nr 3, s. 6.

Bykow Wasyl, Przeklęte wzgórze, fragm. pow., tł. z białor. Wiktor Woroszylski, *Twórczość* 1969, nr 10, s. 25—49.

Bykow Wasil, Ballada alpejska, Warszawa 1970. Rec. Komar Michał, *Polityka* 1970, nr 33, s. 5; Faryno Jerzy, *Nowe Książki* 1970, nr 22, s. 1351—1352, il., Pawlak Edward, *Miesięcznik Literacki* nr 11, s. 130—131.

Bykau Wasilij, Sotnikow, opowiadanie, tł. z ros. Andrzej Drawicz, *Życie Literackie* 1972, nr 45, s. 11, 14, il.

Bykau Wasil, Sotnikow, fragm., tł. z ros. Andrzej Drawicz, il. Nina Węgrzynowska, *Argumenty* 1972, nr 51, s. 8—9.

Bykaú W. Pawlak Edward, Wojna i etyka, *Literatura* 1976, nr 45, s. 3—4, il.


P.C.



**Сельскагаспадарчы кааператыў у Плёсках (гміна Бельск) не толькі вытворца збожжа. Ён займаецца таксама жывёлагадоўляй. На здымку з левага боку адміністрацыйны будынак, а з правага — кароўнік.**

**Фота М. Хмялеўскага**

## РАЗБЭШЧАНЫЯ МЯСНІКІ

Хоць мяса, асабліва вяндлінаў, у крамах Бельска стае, аднак іх якасць надалей не паляпшаецца. Бельскія мяснікі не хочуць або не ўмеюць добра працаваць, выраблядь адпаведную каўбасу і іншыя вырабы. Бяльчане ездзяць купляць вяндліну ў Беласток. У Бельску прадаюць нейкую „Бытамскую" каўбасу і яшчэ такую, з якой вада свішча, калі мацней узяць яе ў руку... А выбар зусім мізэрны. Наракаюць людзі на балаган і кажуць, што бельскіх мяснікоў даўнавата, відаць, ніхто не кантраляваў. Таму бельскія мяснікі і разбэсціліся.

**Ж. М.**




Дзень добры, „Ніва"!

Некалькі гадоў я ўжо чытаю вашу газету, сам будучы ў БССР. Атрымліваць яе даводзіцца з цяжкасцю (дасылаюць мне „Ніву" прыватна, з Польшчы). Хоць іншыя польскія газеты можна лёгка выпісаць у нашым „Саюздруку", то што датычыць беларускай газеты з Польшчы не зусім, каб можна было. А ведаю, што шмат чытачоў у БССР з задавальненнем выпісалі б „Ніву". Цяпер, у час „перестройки", можа і „Ніве" будзе больш адкрыта дарога да беларускага савецкага чытача, у рамках ломкі ізаляцыянізму?

І яшчэ — просьба мая да вас: вельмі хацеў бы я набыць беларускія кніжкі і „Беларускі каляндар", якія выдаюцца ў Польшчы. У БССР ніколі не бывае іх. Улетку, будучы ў Польшчы — у Варшаве, Гданьску, Кракаве, — нідзе і ў аніякай кнігарні не змог я дапытацца пра беларускія кніжкі і ніхто не змог даць мне добрай парады.

**Сяргей Якаўлеў,** Віцебск.

**Ад рэдакцыі:** Падобныя пісьмы мы атрымліваем час ад часу і таму, публікуючы гэты ліст, хочам пры нагодзе паведаміць іншых зацікаўленых чытачоў, што існуе магчымасць атрымання нашых кніжак у парадку абмену кніжкамі з Галоўным праўленнем Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку, якое такім чынам таксама камплектуе сваю бібліятэку. Пісаць па адрасу: Zarząd Główny Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego, Białystok, ul. Warszawska 11.

(Працяг са стар. 1)

## ГАРЭЦЬ ДУШОЙ

лістоў, звязаных з падарожжам па Беласточчыне.

— Патрэбны абмен?

— Я лічу: блізкі кантакт і ўзаемаабмен нам вельмі патрэбны. Гэта давала б імпульс да ўзаемапазнавання. Такія кантакты і інфармацыя могуць зрабіць дабро і — толькі!

Інтэрв'ю ўзяла
**Вера Валкавыцкая**

(Працяг са стар. 3)

## АБ „ПАНУ ТАДЭУШУ"

Магчыма, што чытачы маюць свае прапановы, якія дазволяць распаўсюдзіць гэту каштоўную кнігу

Калісьці Міцкевіч марыў аб тым часе, у якім яго кнігі трапяць пад вясковыя стрэхі. Праўда, сёння ўжо практычна стрэх над вясковымі хатамі амаль што няма, але, здаецца мне, што „Пан Тадэуш" падыходзіць і да сучаснага, крытага шыферам ці бляхай, беларускага дома.

Давайце, дарагія чытачы, супольна дапаможам выдавецтву „Поезежэ" пазбыцца кнігі, якая для яго сталася баластам, а для нас будзе сапраўдным скарбам.

**Алесь Барскі**

## НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

Odpowiadając na notatkę zamieszczoną w tygodniku „Niwa" pt. „Straszna" w numerze w dniu 6 września br. w sprawie oświetlenia ulicy Małej w Hajnówce informuję, że w ramach realizacji nowego osiedla mieszkaniowego „Mazury" zostanie wybudowana linia komunalna oświetlenia ulicznego ul. Małej. Zgodnie z planem realizacja winna nastąpić w miesiącu październiku br. przez Białostockie Przedsiębiorstwo Instalacji Elektrycznych.

Z-ca Naczelnika Miasta
Hajnówka
mgr Jadwiga Rudzińska-Patejuk




Пачынаючы з XIV стагоддзя і па сённяшні дзень розныя „настаўнікі" ўбівалі ў галавы нашым продкам і ўбіваюць нам фальшывае спрошчванне: за ўвядзенне на трон Каралеўства Польскага Уладзіслаў Ягайла ахрысціўся сам і ахрысціў у каталіцкую веру Вялікае княства Літоўскае. А праўда ж была цалкам іншая.

Пачнём ад заключэння Ягайлам 14 жніўня 1385 года гэтак званай крэўскай умовы. Штораз болей вучоных выказвае меркаванне, што ніякай умовы Ягайла не падпісваў, а толькі склаў нейкія абяцанні. Пры тым няма ніякай упэўненасці, што яны наогул былі, бо захаваны іх тэкст — гэта пазнейшы фальсіфікат! Пра тое дзяржаўныя дзеячы Вялікага княства Літоўскага ведалі здаўна і на Люблінскім сейме ў 1569 г. голасна заявілі, што ніякія запісы пагаднення ў Крэве ніколі не існавалі.

Што ж, можа ім, якія жылі больш за тры разы бліжэй 1385 года, было відней, чым нам, з 1987 года. Дапусцім, аднак, што ў Крэве фактычна Ягайла тыя свае славутыя абяцанні, калі не на пісьме, то на слове, усё ж такі даў. Аднак гэта зусім не абазначае, што іх збіраўся ён выконваць! Яшчэ ў 1378 г. была падпісана ўмова паміж Людовікам Андэгавенскім і Габсбургамі, што калі хто адмовіцца ад жаніцьбы ці замужжа Ядвігі з Вільгельмам, той з іх плоціць 200 тысяч фларэнаў (больш за 700 кілаграмаў золата) рэкампенсацыі. У Крэве Ягайла абяцаў заплаціць за Ядвігу гэтую




аграмадную суму, але не даў ні граша! Таксама не адваяваў для Каралеўства Польскага „сваімі намаганнямі і коштамі" страчаных раней польскіх зямель. І не падаваў віду, што збіраецца адваёўваць, хоць такое абяцанне ён, быццам бы, даваў. Калі і абавязваўся, то і так нічога не выйшла з яго абяцанак „краіны свае Літвы і Русі навечна далучыць да кароны Каралеўства Польскага".

Калі Ягайла не выканаў і нават не думаў выконваць усе тыя, быццам бы дадзеныя ім у Крэве, абяцанні, то чаму мусіў якраз „ахрысціць у каталіцкую веру Вялікае княства Літоўскае"? Вядома, не ахрысціў, бо і не было патрэбы хрысціць. І то па той простай прычыне, што насельніцтва Вялікага княства Літоўскага ўжо 400 год было хрысціянскім!

На аграмадным яго абшары, ад вытокаў Волгі на паўночным усходзе і да ракі Днястра на паўднёвым захадзе ды ад ракі Бобры (Бебжы) на паўночным захадзе да Дона на паўднёвым усходзе, спакон веку жыло праваслаўнае насельніцтва, дзейнічалі тысячы цэркваў, некалькі епіскапстваў, Кіеўска-Наваградская мітраполія! Калі ўжо і здараліся нехрысціяне, то жылі яны на самых ускраінах дзяржавы: мусульмане — на прычарнаморскіх і данскіх стэпах, а язычнікі-паганe — у Жмудзі і дзе-нідзе па Аўкштоце, а ў гарадах і мястэчках прабывала шмат яўрэяў, якія былі іудзейскага веравызнання. Нехрысціяне — гэта была невялічкая кропля ў моры хрысціянскага насельніцтва Вялікага княства Літоўскага. Сужыццё хрысціян (а былі сярод іх таксама каталікі, якія жылі па гарадах і на заходнім пагранічны дзяржавы) з




(Працяг са стар. 5)

У Герасіма голас гучны, ён сам вялікі, цёмны і разумны, калі так нам даводзіць.

— Я табе скажу. Мы такі народ: і папрацаваць умеем, і пагуляць любім, але не любім, каб хто чужы нам за пазуху заглядаў. Калі каму даверым — ён ужо наш. Але ў нашага чалавека свая да ўсяго палітыка, свой погляд, свая фантазія. Нічога нікому не шкадуе, абы яго дабра не чапаў. А хоць бы славянін — ну, я там нічога да яго не маю, няхай робіць што хоча — ён, праўда, і дзяўчат любіць, і выпіць, і мяса паесці, і пад яблынькай любіць паляжаць, і ўсюды лезе з парадай, калі нават яго і не просяць. Ну, няхай кожны думае што хоча, абы мір на свеце быў. Трэба ўмець цаніць сваё і шанаваць чужое...

З Герасімам Козьмавічам часам мы нязгодны, але яго і так не перагаворыш. Такі абмен поглядамі для нас вельмі карысны, асабліва таму, што брыгадзір — чалавек пажылы, вопытны і вельмі цікава гаворыць па-руску. Сын яго ў арміі, на поўначы СССР. „Дзе яму было б лепш, няхай бы канчаў вышэйшую школу ў цёплай, сонечнай Малдавіі, але ён захацеў паглядзець жыццё...“ Жонка Герасіма Бівала — з Прыбалтыкі, прыгожая, добрая гаспадыня — брыгадзір пазнаёміўся з ёю, калі служыў там у арміі.

— Хаця і нядрэнна трапіў, думаю, што лепш аднак было б, калі б узяў сваю, малдаванку. Дзеці лепш гаварылі б па-малдаўску, а то ў хаце трэба кантактавацца на міжнароднай, рускай мове. Па малдаўскай мове і літаратуры ў мяне была толькі тройка, а па рускай таксама, стараюся аднак гаварыць толькі па-малдаўску. Мог бы „шкурнічаць“ і „не быць“ малдаванінам, як некаторыя тут у нас. Хаця ў нас канстытуцыйная талерантнасць і інтэрнацыяналізм, бываюць такія людзі, якім здаецца, што калі перастануць быць простымі малдаванамі — „далей зойдуць“. І пасля такі вырадак, які якраз гэтакім спосабам якасьці выдзярэцца ўверх, вядома, як адносіцца да с в а і х.

Вядома, як некалькі дзесяткаў год таму назад мог адчуваць сябе малдаванін, закарэлы бесарабец, валох, адарваны ад сваёй сахі і вала (у Бесарабіі да рэвалюцыі тэхніку лічылі на шэсць тысяч сох) і ўведзены ў братэрскі рад раўнапраўных народаў. Хаця зямля была багатая, ды не яго, а пана, які сядзеў сабе ў нейкім Парыжы. Цяпер і краіна цвіце, і людзі. Але я, калі быў у арміі, сярод іншых нацыяў, мусіў пазбыцца ўсіх сваіх комплексаў і выбіць з галавы некалькім таварышам тое, што я магу быць у нечым горшы, чым яны. І быў ва ўсім лепшы — і ў войску, і ў спорце, і ў кантактах з дзяўчатамі... — тут Бівал падымае сваю магутную бронзавую руку: зламаў усіх. Вось бачыце, які я! У нас ужо дзесяткі год няма горшых і лепшых. Найгорш, калі гэта наш чалавек прымітыўна выракаецца сваёй іншасці, такой каштоўнай для развіцця культуры і самаакрэслення чалавека ў жыцці. Што ж фальклор — каляровыя паштоўкі, тут не толькі фальклор трэба развіваць...“

Спяваем песні. Марка, які моцна крычаў, змакрэўшы, і чапляўся да ўсіх і ясна сябе акрэсліў — замкнулі на ключ. Няхай спіць. Заўтра зноў паедзем працаваць пад высокім сонцам. А ў нядзелю — фотаапараты ў рукі, вочы — вышэй, сэрцы — шырэй!



Сяло Варнічэны.

**Міра Лукша**
**Фота аўтара**

(Працяг са стар. 2)

# З ПАЕЗДКІ Ў БССР

здачу аб дзейнасці нашага партызанскага атрада...

**І я дастаў у рукі гэтую справаздачу. Яна патрабуе, аднак, крытычнага разгляду і я вярнуся да яе пасля даўжэйшага водпуску, калі зноў на старонках „Нівы“ пачну вандраваць „ваеннымі сцежкамі“.**

— Ці вы ведаеце адрас Рыгора Сафронавіча? Ці маеце з ім кантакт? — пацікавіўся я.

— Кантакты ў нас рэдкія, — неяк стрымана адказаў Мікалай Сцяпанавіч. — Гэта такі чалавек, з якім цяжка дружыць і не ведаю я, ці быў бы ён задаволены, калі б я даў вам яго адрас.

Аднак, я пабываў таксама і ў Рыгора Каравая, які жыве ў прасторнай кватэры на вуліцы Арджанікідзе, у зялёным цэнтры Брэста. Часу было мала. Цераз паўгадзіны Аляксандр Кавальчук чакаў мяне на тэлецэнтры, дзе рыхтавалася паўгадзінная праграма для Брэсцкага тэлебачання і я сваімі расказамі аб подзвігах савецкіх воінаў у надбужных дотах, аб нашай братэрскай дружбе, аб сённяшніх днях Беласточчыны, аб рашэннях X з'езда нашай партыі і іх сугучнасці з пастановамі XXVII з'езда КПСС, — меў запоўніць у асноўным гэтую праграму.

Дык гутарка з даўнейшым камандзірам партызанскага атрада няшмат папоўніла мае веды аб партызанскай барацьбе на Беласточчыне.

— Я глуміў і расстрэльваў фашыстаў і здраднікаў! — амаль без перапынку паўтараў Рыгор Каравай. — За гэта мяне Айчына адпаведна ўзнагародзіла! — ён дастаў з шафы святочны пінжак, густа абвешаны ордэнамі, медалямі і знакамі ўганаравання.

На тым мы і развіталіся.

Пад вечар я пакінуў Брэст. Да самага цягніка праводзіў мяне Аляксандр Кавальчук. Мы паабяцалі сабе, што неўзабаве сустрэнемся зноў у Беластоку. І я вось чакаю гэтай сустрэчы.

**Віктар Рудчык**

нехрысціянамі было мірнае і бесканфліктнае.

Адкуль жа бралася тая раз'юшанасць, з якой тагачасная Еўропа атакавала Вялікае княства Літоўскае за тое, што яно, быццам бы, паганская, язычаская дзяржава? Самымі заядлымі пашыральнікамі хлусні і паклёпніцтваў пра „паганскасць“ Вялікага княства ўжо больш за паўтара стагоддзя былі крыжакі.

Але на крыжацкую прапаганду ніхто б і вухам не вёў, калі б не рэлігійны фанатызм, які ўсё глыбей пранікаў у розныя пласты тадышняга еўрапейскага насельніцтва. Усё мацней разгараліся супярэчнасці паміж усходнім і заходнім адгалінаваннямі хрысціянства. Усходняе — праваслаўнае — адгалінаванне апынулася ў вельмі цяжкім становішчы: на яго абрушылася мусульманская навала з усходу і разнастайныя націскі з захаду, аслаблялі таксама розныя ўнутраныя цяжкасці. Хоць у той жа час заходняе — каталіцкае — адгалінаванне перажывала свой унутраны крызіс (абранне двух папаў: Урбана VI у Італіі і Клімента VII у Францыі), але яго кіруючыя колы не праміналі пакарыстацца трагічным становішчам сваіх праваслаўных братоў у Хрысце, каб падпарадкаваць іх сваёй уладзе. У Еўропе здаўна пашыралася і замацоўвалася перакананне, што праваслаўныя — гэта адшчапенцы ад веры Хрыстовай, што праўдзівыя хрысціяне — гэта толькі каталікі.

Падзел у хрысціянскім свеце на каталікаў і праваслаўных ды змаганне паміж імі зламысна выкарыстоўвалі крыжакі. Нападаючы на Вялікае княства Літоўскае, асабліва на Панароўе і Панямонне, яны зніштажалі праваслаўнае насельніцтва і яго цэрквы з большай заядласцю, чым нехрысціян і іхнія храмы. Крыжацкія вандроўныя агітатары не абміналі ў Еўропе ніводнага раскошнага замка і ніводнай убогай таверны, каб не праславіць геройскія подзвігі рыцараў на бязмежных прасторах „паганскай Літвы і Русі“ і не заклікаць каго толькі ўдалося ісці іхнім следам. І словы прапагандыстаў са знакам чорнага крыжа на белым плашчы не ішлі на вецер: у еўрапейскіх краінах умацавалася перакананне, што крыжацкі Ордэн выконвае высакародную ролю ў пашырэнні навукі Хрыстовай і трэба яму ўсебакова дапамагаць вайсковай сілай і матэрыяльнымі сродкамі. Днём і ноччу ва ўсе поры года праз доўгія дзесяцігоддзі і нават стагоддзі з усяе Еўропы сцякаліся ў Мальбарк не толькі прагныя прыгод блукаючыя рыцары-валацугі, але і натоўпы ўзброеных да зубоў фанатычных змагароў за пашырэнне хрысціянства, якія ў імя Хрыста самі ішлі на смерць і неслі смерць таксама нехрысціянам-жмудзінам, як і хрысціянам-беларусам. Еўрапейскія краіны шчодра абяспечвалі іх самай навейшай зброяй і не скупіліся на грошы ды іншыя сродкі. Словам, не толькі на Вялікае княства Літоўскае, але і на ўсю Усходнюю Славяншчыну ўсё больш настырна і нахабна насоўвалася з кожным дзесяцігоддзем усё мацнейшая смяротная крыжацкая пагроза. Як відаць было са шматлікіх папярэдніх адрэзкаў „Шляхам гадоў“, Вялікае княства дасканала ўсведамляла трагічнасць свайго становішча і не адхіляла ніводнага з любых сродкаў, каб толькі як-небудзь загарадзіць крыжакам дарогу на ўсход.

Таму прыняццё ў 1386 г. каталіцкага веравызнання самім Ягайлам-Якавам і некаторымі яго родзічамі, а затым намер ахрысціць па каталіцкаму абраду тую невялікую па колькасці частку насельніцтва — у асноўным жмудзінаў, летувісаў і нашчадкаў яцвягаў і прусаў, — якая жыла ў асноўным на папграніччы з уладаннямі крыжацкага Ордэна, было ўсяго толькі адной з тых спробаў пазбавіць крыжацкіх захопнікаў зачэпкі да наступу на Вялікае княства Літоўскае і наогул на Усходнюю Славяншчыну. Таксама ўвайсці ў каталіцкую еўрапейскую грамадскасць Ягайла і яго паплечнікі рашылі пры дапамозе польскага духавенства, каб не дапусціць да гэтага акта крыжакоўды іхніх прыхільнікаў і такім чынам не трапіць у крыжацкую залежнасць. Значыць, не дадзеныя ў Крэве Ягайлам абяцанні за польскую карону ахрысціць Вялікае княства Літоўскае, але якраз наадварот: польская карона і хрэст невялікай колькасці насельніцтва патрэбны былі Ягайлу дзеля таго, каб абараніць Вялікае княства Літоўскае ад крыжацкага націску.

Аднак ахрысціць тую жменьку язычнікаў аказалася справай вельмі складанай і цяжкай, а каталіцкае веравызнанне не стала ні мурам, ні ахоўным шчытом ад крыжацкай агрэсіі. Але пра гэта ў наступных адрэзках нашага „Шляху“.

**Мікола Гайдук**

# Мы з табой, „Магістрат"!

Ад журналіста чакаю не ацэнкі настаўніка пачатковай школы, а глыбокіх назіранняў сацыёлага-даследчыка, падставы для якіх можа даць і важная палітычная падзея, і выхад новай кнігі, і філарманічны канцэрт, і папулярнае рок-відовішча. Творчы патэнцыял маладой беларускай хэві-метал групы „Магістрат" у гэтым сэнсе тым больш прадстаўляецца неаранай цалінай, спрыяльнай глебай. Але няхай даруюць мне чытачы, у дадзеным выпадку я не магу адарвацца ад уласных эмоцый, якімі мяне перапаўняе музыка групы. Спадзяюся толькі на тое, што шчырасць тут зможа парушыць бар'ер суб'ектыўнасці паміж мною і чытачом.

Я разумею, што першай і да канца свядомай беларускай рок-групай стала „Мроя"; я згаджаюся, што шырокая папулярнасць „Бонды" зусім апраўданая; я памятаю, як самаадданa захапляўся ў свой час музыкай „Бітлз" і „Дып пэрпл"... Але калі цяпер просяць назваць лепшую на мой погляд рок-групу ў свеце, я перш за ўсё называю „Магістрат", музыка якога пасялілася ў душы, і бывае цяжка, калі надоўга з ёй развітваешся. Бо гэта музыка даходзіць да самай свядомасці маёй.

А пачалося ўсё ў 1985 годзе, калі ў мінскім кафэ-клубе „Сузор'е" я ў складзе аргкамітэта па стварэнню рок-клуба прысутнічаў на праслухоўванні тагачасных нашых патэнцыялаў. Гэта не быў звычайны канцэрт, бо слухачы маглі разлічваць на сапраўднае задавальненне толькі пры выступленні „Бонды", якая была ўжо даволі вядомай. А так выходзілі розныя „Інтэры" ды „Ступені" і альбо наводзілі сум, альбо ціснулі сваім цяжкім рокам на вушы. І вось да нас з А. Мяльгуём (будучым прэзідэнтам рок-клуба) падыйшлі нейкія тры валасацікі і папрасілі даць і ім магчымасць паказаць свой хэві-метал.

Я хоць і люблю цяжкі рок, але скептычна аднёсся да гэтых, як здавалася, аматараў ашарашыць публіку грукатам і скрыгатам. Нават назвы сабе эфектыўнай прыдумаць не здолелі, згадзіўшыся выступаць зараз як „Кантынент".

Як бы тое ні было, але вось „валасацікі" выйшлі на сцэну...

— Ну, — думаю, — зараз грымне...

Але...

Залу напоўніў чысты, сакавіты і напружаны гук. Гэта быў сапраўдны цяжкі рок, але такі мяккі і зграбны, што міжволі з'явілася думка аб прафесіяналізме.

— Майстры! — выказаўся нехта побач.

— Сапраўдныя магістры сваёй справы, — дадаў знаёмы настаўнік.

На самай справе, музыканты хоць і не мелі яшчэ ступені магістраў, але, як аказалася, рабілі дзейсныя крокі да прафесіяналізму ў музыцы: тады, у свае 17-20 гадоў яны былі студэнтамі Мінскага культурна-асветнага вучылішча па класу народнай музыкі. І гэта была самая маладая рок-група ў беларускай сталіцы.

Вывучаць фальклор, а іграць хэві-метал... Камусьці гэта здасца дзіўным. Але, бадай, менавіта таму іх хэві-метал — такі незвычайны і ні на што не падобны — прымушае нашу закаснеўшую джынсавую моладзь адрадзіць нейкую жывую крынічку ў сваёй душы. Не раз потым даводзілася чуць на канцэртах „Магістрата" (гэта празванне і прыклеілася за ім, калі ён пачаў канцэртаваць са сваёй цудоўнай беларускай праграмай ад рок-клуба „Няміга") замест прывычнага „Ещё давай!" — роднае „Яшчэ, калі ласка!".

— Які твор пожелаете? — пасяброўску раяцца з публікай музыканты. Ім яшчэ нялёгка даецца родная мова ў размовах (школа ж вучыла іншаму), але праз песню яны вяртаюць свядомасць і сабе, і людзям.



Рок-група „Магістрат".

Па зале прабягае ланцужок знаёмых ужо назваў:

— „Героям Грунвальда"!

— „Пугача" хочам.

— „Белую гадзюку" лепш. Ці „Мёртвыя мовы"!

І канцэрт працягваецца яшчэ доўга з неаслабным энтузіязмам. Гучаць кампазіцыі, тэксты для якіх напісалі, спецыяльна для „Магістрата", цудоўныя нашы маладыя паэты Сяржан Карсак, Анатоль Сыс, Пятро Ламан... Сярод публікі ўзвіўся сцяг БССР. Гэта значыць: „Мы з табой, наш „Магістрат"!"

І гэтае яднанне адбываецца не па статкаваму інстынкту, а дзякуючы значна больш высокаму пачуццю — агульнай свядомасці, якую нясуць маладым людзям гэтыя чацвёра іх равеснікаў — Ігар Нікановіч, Алесь Рудакоў, Ігар Сакалоўскі, Сяржук Байкоў. А карацей кажучы — „Магістрат":

Не зважаю шаленства пустога.  
Кожны гук — ён ад сэрца  
ідзе,  
Ад майго — да твайго,  
да другога...  
Ты адчуй яго сэнс, зразумей.  
Магістры металу, магістры  
металу  
Расплаўленай думкі пякучы  
запал  
Зальюць табе ў вушы,  
зальюць і у душу,  
А ты зразумей гэты цяжкі  
метал...

Гэтай візітнай карткай-песняй групы і завяршу свой роспавед. Бо музыку ж лепей слухаць, чым чытаць пра яе. Гэтага і пачакаем.

**Віктар Мартыненка**  
*(Ганарар на музей)*

(Працяг са стар. 4)




камі, скрыўленымі купаламі цэркваў. Параўноўваючы гэтыя карціны мастака з гістарычнымі рэаліямі, бачна, наколькі далёкія яны ад сапраўдных віцебскіх пейзажаў. Можна запярэчыць, што мастак мае права на ўласнае бачанне рэчаіснасці. А можа дакладней было б сказаць: менавіта такім бачыў ён Віцебск, заплюшчыўшы вочы на тое, што стварыла яму славу помніка высокай горадабудаўнічай культуры.

Колькі яшчэ постацей-волатаў з нацыянальнай гісторыі чакае свайго ўвекавечання! Гродзенскі клуб „Паходня" распачаў патрыятычную справу па стварэнню помніка Кастусю Каліноўскаму і генералу Антанаву. Мастак Маліноўскі стварыў скульптуру свайго славутага земляка Пятра Мсціслаўца, якую мяркуецца ўстанавіць на радзіме друкара. Распачата вялізная праца па рэгенерацыі гістарычнай забудовы Мінска. На чарзе такія працы ў Гродне, Навагрудку, Пінску, тым жа Віцебску і многіх другіх старажытных беларускіх гарадах. Вядзецца рэстаўрацыя вартасцёвых помнікаў дойлідства ў Міры, Лідзе, Пінску, Мсціславе — літаральна па ўсёй Беларусі. Усё гэта патрабуе вялікіх матэрыяльных выдаткаў, забірае нямала творчых сілаў. Клопаты пра помнікі дойлідства і горадабудаўніцтва сталі ці не найбуйнейшай праявай культурнай плыні ў нашай рэспубліцы. У яе рэчышчы варта было б разглядаць і творчасць Шагала: што ён даў народу, чым уславіў родную зямлю, які клопат меў пра яе патрэбы. Гаворка ж, так атрымоўваецца, ідзе толькі пра Шагала, толькі ў сувязі з яго стогадовым юбілеем, толькі ў сувязі з тым, што ён — сусветная славутасць. Ды і нараканні, што „толькі на яго радзіме, у Віцебску, няма ніводнай яго карціны, няма яго музея, няма ні мемарыяльнай дошкі, ні вулачкі яго імя", варта было б супаставіць з пытаннем: а ці хацеў гэтага сам мастак і што з яго творчай спадчыны завешчана гораду? Можа гэта адна з прычын, што ў горадзе, дзе пачыналася мастакоўская дзейнасць Шагала, нічога, акрамя памяці (праўда, крыху падфальсіфікаванай, што надае ёй пэўны непрыемны душок) ад яго амаль не засталося. Мог бы быць у Віцебску мастацкі музей і напэўна ж будзе. Як піша ў газету „Віцебскі рабочы" (1987, ад 10 студзеня) Б. Аронава: „У Віцебску была калісьці цудоўная мастацкая школа, дзе працавалі вядомыя жывапісцы і скульптары. І як было б добра мець мастацкі музей, у якім гараджане і госці маглі б пазнаёміцца з іх творчасцю". Тыя ж Пэн ці Малевіч зрабілі на нашай зямлі ніяк не менш за мноства разоў услаўленага ці то французскага, ці ўсё ж рускага мастака. Каб у поўнай меры зразумець культурнае жыццё Віцебска ў 20-я гады ў музеі варта адлюстраваць шматграннасць тагачасных мастацкіх накірункаў.

З павагаю — **Ігар Чарняўскі**

## З МАЛДАВІІ

Малдавія... Прыгоркі, рэчачкі, азёрцы. Таполі паўз дарог. Жоўтыя сланечнікі, кукуруза, пшаніца, сады, вінаграднікі, сонца, сонца. Ночы ціхія. Як у Горкага: „паветра было прапітана сочнымі подыхамі зямлі, незадоўга да вечара змочанай густым дажджом... Вецер цёк шырокай, роўнай хваляй і час ад часу быццам скакаў цераз нешта непрыкметнае, нарадзіўшы мацнейшы парыў, развейваў косы жанчын..."

У белых (найчасцей) хатах з характэрнымі разьблёнымі драўлянымі ўпрыгожаннямі на вуглах (такія рэзьбы ўмацоўвалі на сваіх сялібах і сотні год таму назад), у каляровых мураван-




ках, таксама на лад бесарабскі, пад чатырохспадовымі нізкімі чырвонымі дахамі, жывуць шчырыя і гасцінныя людзі.

Пасля выпадку, калі мы доўга стаялі, чакаючы міліцыю, запрасіў нас усіх дахаты вясёлы таўсцяк, пачаставаў нас хатнім віном і чарэшнямі са старой чарэшні. Здаралася нам бываць у гасцях у незнаёмых людзей. Праўда, не ўсіх малдаван успамінаем добра — вядома, у кожным народзе ёсць розныя людзі.

— Я табе скажу, які мы народ малдаване, — кажа мне Герасім Козьмавіч, намеснік брыгадзіра 2-ой брыгады, які вельмі любіў з намі пагутарыць у полі, ці ў інтэрнаце, куды мы яго запрашалі.

(Працяг на стар. 7)

# ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Заканчэнне з папярэдняга нумара

— Не трэба забіваць, — галасна сказаў Пятро. — Здыміце салому са стрэх. Ад застрэхі-капяжа і да сярэдзіны пакрыцця.

— І што? — скрывіўся Гнат.

— Абмалаціце. І падмяціце дошкі, што знізу падстрэшка.

І праўда, крылі ж страху, беручы неабмалочаныя снапы. Кінуліся людзі на стрэхі. Абмалацілі салому. Змялі разам з пылам зярняткі (столькі іх нападала на падстрэшкавыя дошкі). Набралі насення, каб хоць сяк-так засеяць ніўкі.

— І падзяліцеся сакрэтам з суседзямі — сказаў Пятро.

— Чаго-о?! — узвіўся Гнат. — Ды мы іх...

— Падзяліцеся. Іначай кепска будзе.

На радасцях падзяліліся. І — нібы ад палёгкі, нібы ад падзякі — жыта ва ўсіх пайшло густое, кашлатае, як мядзведзь.

**Уладзімір Караткевіч**

## НЯМОГЛЫ БАЦЬКА

(казка)

— Чаму не да канца стрэхі загадаў агаліць? — спытаў Максім.

— А вось каб вымерзлі ўсходы — тады б аж да казлоў усе кроквы і латы агалілі, але знайшлі б што другі раз у зямлю кінуць.

— Вой, не на дабро такі розум, — сказаў Гнат. — Быці бядзе.

І як наракаў. Пачало ўжо красаваць, пачало весяліцца жыта, калі аднойчы з'явілася над гаем вялікая галава. Ішоў Велікан. Не з добрых волатаў, а з тых, што народу ў шкоду. Нагой ступіць — вада ў след набягае і робіцца стаў.

— Жыта якое! — загрымеў, як сто перуноў. — Тут і пасялюся.

Наламаў бярвенняў, зрабіў на самай гіганцкай асіне падмосце, а на падмосці з валуноў пабудаваў сабе замак.

— Тут буду сядзець. Збожжа збераце — з'ем. З-пад казлоў збераце, засееце — і тое з'ем. А пасля вас саміх з'ем.

Паспрабавалі стрэлы ў яго кідаць — не далятаюць стрэлы да замка. Велікан стральцоў злавіў і з'еў, каб астатнім непанадна было. Смяротна затужылі людзі. Прыйшоў Пятро ў хату.

— Усё, татка. Цяпер прападаць будзем. Але — разам.

— Не шкадуеш?

— І ў соты раз я такі б Закон пераступіў. Цяпер — разам.

**(Працяг на стар. 10)**

# 70 ГОД КАСТРЫЧНІКА



Самалёт-ракета, ён будзе лётаць у 5-6 разоў хутчэй за гук.



Савецкі Саюз адкрыў эпоху касмічных палётаў. На здымку савецкія і сірыйскі касманаўты пасля прызямлення.

## Вучнёўская творчасць

### Восень

**На дварэ ўжо восень,**
**Ападае лісце з дрэў,**
**Кветкі перацвілі,**
**Ціхне птушак спеў.**

**Дзень стаецца меншым,**
**Халодныя ранкі й вечары**
**Сонца хмары закрываюць,**
**Падаюць дажджы.**

**Маніка Лемеш**
IV кл. школа ў Орлі

## Пішуць школьнікі

**ДАРАГАЯ „ЗОРАЧКА".**

Нас завуць Ала Гайдук і Ася Коўнер. Мы вучымся ў IV класе Пачатковай школы ў Ласінцы. Мы хочам расказаць табе аб сваім класе. У нашым класе 7 вучняў — 3 дзяўчынкі і 4 хлопцы.

Адна з дзяўчатак — Магдалена Раманчук — сталася нашай сяброўкай ад гэтага навучальнага года. Яна прыехала з Вроцлава, дзе не вучылася беларускай мове. Цяпер нашая настаўніца беларускай мовы Ніна Абрамюк працуе з ёю як з вучаніцай другога класа. Магдалена пазнае літары і вучыцца чытаць. Яна вельмі палюбіла гэты ўрок, ахвотна прыходзіць на заняткі. Мы думаем, што працаваць у класах спалучаных III-IV на ўроках беларускай мовы цяжка. Нягледзячы на гэта Магда ўжо прыгожа піша і чытае па-беларуску. Мы ўсе яе палюбілі.

У нашым класе ўсе вучні зрабілі падпіску на „Ніву". З яе будзем карыстацца на ўроках. Хацелі б, каб больш у „Ніве" было казак, п'ес на розныя школьныя ўрачыстасці. Некалькі вучняў у нас выпісвае і „Вясёлку".

Наш клас дружны.

**Ала і Ася з IV класа школы ў Ласінцы.**

**ЯК ДАЗНАЎСЯ...**

**Як дазнаўся ад суседа Вова,**
**Што мядзведзь не мыецца ніколі,**
**А жыве — як той бугай — здаровы**
**І за ўсіх дужэйшы ў наваколлі,**
**Што зімою спіць ён колькі ўлезе,**
**Носіць футра цёплае заўсёды,**
**Лукі для забавы гне з бярэзін,**
**Есць маліну ды салодзіць мёдам...**
**Як дазнаўся... Бедныя галовы! —**
**Тату з мамай аж дзявацца недзе,**
**Плача Вова:**
**— Не хачу быць Вовам —**
**Запішыце і мяне ў мядзведзі!..**

**НЕ ПАДРУЖАЦЦА НІЯК...**

Чорны шпак і чорны кот
Знаюцца не першы год.
Любіць кот шпака свайго,
Жыць не можа без яго.

Шпак за песню — тут жа кот
Стрымгалоў імчыць на плот.
Настаўляе вуха:
Дужа любіць слухаць.

**Васіль Зуёнак**

## БЕЛАРУСКІЯ МУЗЫЧНЫЯ ІНСТРУМЕНТЫ




Надта старажытны інструмент. Шмат песень і балад было спета пад іх акампанемент. Колькасць струн — ад 7 да 30.

Зараз выключна рэдка можна ўбачыць гусляра і пачуць цудоўную музыку мінулых стагоддзяў.

# НІЎКА

## (З СУСЕДСКАГА АГАРОДЧЫКА)

### МІНІЯЦЮРЫ

Вельмі любіць праяўляць сваю сціпласць у першых радах высокага прэзідыума.

У далейшых радах, тым больш у заднім, рабіць гэта — цяжэй.

*

**Вусаты, салідны дзядзька, калгаснік, хваліцца прыезджаму інжынеру:**

**— Мой пляменнік таксама ў Мінску вялікі чалавек: іграе ў оперным тэатры на трубе нумар адзін.**

*

„Мараль, браток, ідзе з жывата! Быцце акрэслівае свядомасць!"

„Ды не, — з твайго адкормленага жывата ідзе, вядома, што... Часамі нават здаецца, што не толькі адтуль..."

*

Бабуля, калгасная пенсіянерка:

— Кажуць жа ўсё, што скора ў нас будзе так, што машыны будуць усёўсенька самі рабіць. То, можа, хоць машыны піць ужо так не будуць?..

*

Пільнае вока спынілася на цьмяным загалоўку:

— „Души священные порывы..." Вы што? Як можна іх душыць, і хто ў нас іх, скажыце, калі ласка, душыць?

**Янка Брыль**

### ЖУКІ І БУЛЬБА

Сабраў старшыня калгаса сваіх падначаленых і гаворыць:

**— У мінулым годзе пасадзілі сто га бульбы — жукі з'елі.** Сёлета мы пасадзілі сто пяцьдзесят га бульбы **— жукі з'елі. Дык давайце ў наступным годзе пасадзім дзвесце га бульбы — можа, тыя жукі, урэшце, удавяцца.**

— Не разумею, што яны знайшлі ў гэтай карціне...

### ВЕЛЬМІ ПРОСТА

— Сцяпан, ну, як жывеш?

— Як і ўсе. Перабудоўваюся патроху.

— О, дык ты малайчына — ідзеш у нагу з часам. Расказвай, як табе гэта ўдаецца?

— Вельмі проста. Хату ў вёсцы прадаў, а ў горадзе невялічкі асабнячок будую... На два паверхі... З падземным гаражом.

### ВЕТЛІВЫ

— Глядзі, які ветлівы наш Антон Антонавіч: уступіў месца жанчыне!

— Дык то ж яго жонка!

### КОРАТКА ПРА АДНАГО ГРАМАДЗЯНІНА

Яго кватэра была абсталявана венгерскай мэбляй, сцены абклеены фінскімі шпалерамі, буфет напоўнены чэшскім крышталём. Піў ён толькі французскі каньяк, а ездзіў адпачываць у Балгарыю.

Зараз ён сядзіць за кратамі, што, як кажуць, калісьці былі зроблены са шведскай сталі.

Без слоў.

### КВАЛІФІКАЦЫЯ — ВЯЛІКАЯ СПРАВА

Памочнік кухара Пеця Тарбанюк пасля заканчэння кулінарнага вучылішча рыхтаваў з адной курыцы дзве катлеты „па-кіеўску".

Кухар Пятро Тарбанюк пасля заканчэння кулінарнага тэхнікума рыхтаваў з адной курыцы дванаццаць катлетаў „па-кіеўску".

Майстар Пятро Пятровіч Тарбанюк пасля заканчэння інстытута грамадскага харчавання рыхтуе курыныя катлеты зусім без курыцы.

### „АБСАЛЮТНА САКРЭТНА"

— Здароў, Іван Іванавіч! Ты чытаў сённяшнюю перадавіцу „Праўды"?

— Не. А што?

— Не тэлефонная размова... Пры сустрэчы.

### ПАКАЗАЎ „ПРЫКЛАД"

— Пра што гэта больш як гадзіну гаварыў у цэху ваш начальнік?

— Пра эканомію рабочага часу.

### „КАЛЕКТЫВІСТ"

**Усім ён хваліцца нязменна:**
**— Калектывіст я да мазгоў!**
**Стаю на варце я нядрэнна**
**Дэмакратычных заваёў!..**
**Дурную кіне прапанову**
**Ён падначаленым сваім —**
**Супроць не піхто ні слова,**
**Інакш, разгон учыніць ім...**

**Васіль Мацеўскі**

Праект помніка бюракрату.

### БУМЕРАНГ

— Агіднасць, — абуралася самавітая маці, — мой сын перайшоў у пяты клас спецыялізаванай школы з англійскай мовай, але да гэтай пары ні слова не разумее па-англійску. Майце на ўвазе, я гэтага так не пакіну, маё дзіцё паступіла да вас не як-небудзь, а па званку самога Дтумяна.

— Бачыце, — урэшце змог уставіць слова дырэктар школы, — ваша патрабаванне нявыканальнае, справа ў тым, што педагог сам не ведае ні слова па-англійску.

— Чаму ж вы не звольніце такога педагога?

— На жаль, таксама немагчыма, ён паступіў да нас па званку таго ж Дтумяна.

**К. Макар'ян**

### ПРЫЧЫНА

— Чаму да гэтага часу не гатовы каштарыс і чарцяжы механізацыі агароднінай базы?

— Наш інстытут другі месяц на гэтай базе перабірае агародніну.

### АНТЫАЛКАГОЛЬНЫЯ ПРЫПЕЎКІ

Самагоншчыца Мальвіна
У „рабоце" гнула спіну:
Самагон, як спірт, — гарыць!
Трэба ж ведаць, як варыць!
Пастараўся сельсавет,
Разгадаўшы той „сакрэт"...
І прапалі ўакурат
Самагон і апарат!
Ну, а штраф, — самім сабой —
Хочаш — падай, хочаш — стой...

Трактарыст у нас Гаўрыла
„Запраўляецца" „чарнілам".
А „заправіцца" як след,
То яму з аўчынку свет.
Не паспее ўзяць разгон,
Як адразу ж пад адхон!

З несуноў ён. З той пароды!
Праяўляе гэткі спрыт:
Кожны дзень нясе з завода
За гарэлку дэфіцыт.
Атрымалася якраз,
Што украў ён цэлы МАЗ!
„Ой паеду, разганюся!"
Не паехаў: сесці мусіў...

Хлопец здатны, хоць куды...
Перспектыўны, малады —
Быў ён майстрам адмысловым,
„Залатыя рукі", словам,
Але выпіў раз і два —
Закружыла галава...
Дзе сасонкі, дзе бярэзнік,
Дзе свой дом, дзе...
выцвярэзнік?..

Пад гітару заспяваем,
Пад гармонік — танец!
Мы цвярозых паважаем,
Праклінаем п'яніц!
Ён, яна, ды мы з табой
Аб'явілі п'янству бой!

**Макар Асака**